*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 462 • Красавік—Травень 1999 г.
Год выд. 49

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### ўдзельнікаў сьвяткаваньня 81-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі

Мы, удзельнікі сьвяткаваньня 81-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР выказваем сваю падтрымку дэмакратычным сілам у Беларусі ў іхным намаганьні правесьці выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь згодна з Канстытуцыяй Беларусі 1994 году.

Мы асуджаем антызаконныя дзеяньні ўраду прэзыдэнта Лукашэнкі ў дачыненьні да Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, асуджаем гвалт, які чыняць улады над ініцыятарамі прэзыдэнцкіх выбараў. Мы выказваем падзяку ўстановам, арганізацыям, органам інфармацыі, якія паведамляюць сьвет пра падзеі ў Беларусі, у тым ліку й пра парушэньні правоў чалавека.

Мы заклікаем беларусаў усяго сьвету спрыяць справе аднаўленьня дэмакратыі ў Беларусі, умацаваньню дзяржаўнасьці Рэспублікі Беларусь ды адраджэньню беларускае нацыянальнае культуры.

*21 сакавіка 1999 году, Нью Ёрк*

**30 траўня ў Менску ў выніку трагічнага выпадку загінулі 53 асобы, пераважна моладзь, былі параненыя сотні людзей.**

**Суродзічы на эміграцыі выказваюць глыбокія спачуваньні сем'яў загінуўшых, параненым, усяму беларускаму народу.**

**Беларуская грамадзкасьць замежжа падтрымвае незалежнае расьсьледаваньне прычынаў трагедыі дзеля перадухіленьня падобнага ў будучыні.**

## БЕЛАРУСКІ НАРОД НЕ ПРЫЗНАЕ ЛУКАШЭНКІ ЗА ПРЭЗЫДЭНТА

І ў самой Беларусі, і за ейнымі межамі — усюды праводзяцца акцыі пратэсту супраць злоўжываньня ўладаю, якое дапушчае Лукашэнка на пасадзе прэзыдэнта Беларусі.

У Бруксэлі, сталіцы Бэльгіі, 14 траўня была наладжаная маніфэстацыя перад беларускім пасольствам. Дэманстранты дамагаліся адстаўкі Лукашэнкі й правядзеньня дэмакратычных выбараў паводле Канстытуцыі 1994 году. На маніфэстацыю прыбыло даволі шмат народу з усіх куткоў Бэльгіі. Гэта былі ў бальшыні маладыя людзі, якія шукаюць палітычнага прытулку ў гэтай краіне. Маніфэстацыя прайшла даволі спакойна, праўда, зь некаторымі антылукашэнкаўскімі выкрыкамі, як, прыкладам, «Беларусь — у Эўропу, Лукашэнку — у ж...» ды іншымі.

Пасольства РБ «зрабіла нам гонар», выслала пару сваіх прадстаўнікоў. За некаторымі зь іх мы ўжо ня раз спатыкаліся.

Маскоўскі карэспандэнт папулярнае газэты *La Libre Belgique* (нумар за 18 траўня) Барыс Туманаў у артыкуле пад загалоўкам «Прэзыдэнт Лукашэнка не прызнаны» коратка ўспамінае выбары 1994 году й нагадвае, што Лукашэнкаў прэзыдэнцкі мандат канчаецца сёлета ў ліпені. У сувязі з гэтым Вярхоўны Савет, самавольна разьвязаны Лукашэнкам, правёў прадбачаныя Канстытуцыяй 1994 году прэзыдэнцкія выбары. І

*(Працяг на с. 2)*

## ЗВЫЧАЙНЫ ТЭРОР

***Тэрор (ад лацінск. terror — страх, жах) — палітыка расправы з палітычнымі й клясавымі праціўнікамі з ужываньнем гвалту аж да фізычнае расправы.***

*Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Менск, 1983.*

Арышты. Зьняволеньні. Паказальныя й патаемныя судзілішчы. Раптоўныя зьнікненьні. Гвалтоўныя, заўчасныя, загадкавыя сьмерці... Усё гэта стандартныя прыёмы з арсэналу таталітарных лідэраў, накіраваныя на «дэзактывацыю» палітычных апанэнтаў.

Але «вялікія» тыраны звычайна ня пэцкаліся прымітыўным мардабоем — тое, што чыняць уладныя структуры ў Беларусі апошнім часам, іншым словам не назваць.

Кінарэжысэр, аўтар «Звычайнага прэзыдэнта» Юры Хашчавацкі; дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька; літаратар, былы вязень унутранай турмы КГБ Славамір Адамовіч, галоўны рэдактар газэты «Навінкі» Павал Канавальчык... Вось усяго некалькі найбольш ведамых імёнаў — ахвяраў кулачнага разбою. Хто можа з пэўнасьцю цьвердзіць, што гэты сьпіс поўны?

Нярэдка зьбіцьцё ў закутку можа каштаваць чалавеку больш як шматгадовая турэмная адсідка. Я кажу ня толькі пра тое, што чалавек — пасьля працяглай фізычнай «апрацоўкі» прафэсійнымі вылюдкамі — можа на ўсё жыцьцё застацца інвалідам. Рэч у іншым: звалтузіць — гэта яшчэ й прынізіць, псыхалягічна зламіць.

Розьнік просты як кол: з моманту, калі чалавека да паўсьмерці зьбілі пад вокнамі ўласнай кватэры, ён ужо ніколі не пачуецца небясьпечна ў гэтай краіне пры гэтай уладзе.

Прыкметы чыну заўсёды адныя й тыя ж: «працуюць» некалькі хлапцоў спартыўнага выгляду, б'юць спрактыкавана, мэтадычна, стараючыся нанесьці максымальныя пашкоджаньні, якія, аднак, не прывядуць да летальнага сыходу.

Забойствы, зьнявечаньні, умыканьні людзей... У распараджэньні рэжыму ёсьць яшчэ адзін сродак...

Нядаўна мой знаёмы (мы запазналіся на акцыі апазыцыі пару гадоў таму) — інтэлігентны, высокаадукаваны мужчына, кіраўнік адной са струк-

*(Працяг на с. 5)*

16 траўня ў Таронце спачыў адзін з найвыдатнейшых дзеячаў беларускай дыяспары ў Канадзе, шматгадовы старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады

## МІКОЛА ГАНЬКО

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, рэдакцыя газэты «Беларус» выказваюць спагаду сваякам і паплечнікам нябожчыка.

### *Слова разьвітаньня*



*Адышоў ад нас у вечнасьць дарагі мой сябар Мікола Ганько. Яго сьмерць — гэта вялікая страта, найперш для ягонай жонкі й вернай супрацоўніцы ў грамадзкай дзейнасьці, Марыі. Яна была яго фізычнай і духовай апораю.*

*Ягоны сыход асіраціў беларускую дыяспару ў Канадзе. Шмат гадоў ён быў старшынём Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе, актыўным сябрам Рады БНР, закладаў і чынна падтрымліваў прыход БАПЦ у Таронце, поўніў абавязкі аднаго з дырэктараў Канадыйскага Фонду Ахвяраў Чарнобыля ў Беларусі. Ня памятаю ніводнае грамадзкае імпрэзы, якая б прайшла без удзелу Міколы.*

*Сваёй шчырай, адданай працаю дзеля дабра Бацькаўшчыны ён сам яшчэ пры жыцьці паставіў сабе помнік — сам насыпаў сабе курган... Дык сьпі пад курганам героеў!..*

**Б. Рагуля**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

# ХРОНІКА

## ГАЙЛЕНД ПАРК, Н. ДЖ.

23 траўня ў парафіі Жыровіцкае Божае Маці адзначалі прастольнае сьвята. Дзеля ўдзелу ва ўрачыстасьцях з Таронта прыбыў першагерарх Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы мітрапаліт Мікалай.

## КЎІНЗ, НЬЮ ЁРК

1 траўня ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбылася сустрэча з выдатным беларускім кінарэжысэрам Віктарам Дашуком. Пасьля змястоўнае гутаркі быў паказаны новы дакумэнтальны фільм В. Дашука «Ноч доўгіх нажоў», прысьвечаны гісторыі й сёньняшняму дню таталітарызму на Беларусі. Дагэтуль фільм дэманстраваўся ў розных аўдыторыях і атрымаў высокую ацэнку прафэсіяналаў.



*Віктар Дашук*
*Здымак В. Камінскага*

## ТАРОНТА

5 красавіка Беларускі Грамадзка-Рэлігійны Цэнтар у Таронце наведалі госьці з Атавы — консул Рэспублікі Беларусь М. Хвастоў разам з жонкаю Галінай і віцэ-консул П. Шыдлоўскі. На працягу 3 гадзінаў, прысутныя пачулі ад прадстаўнікоў афіцыйных уладаў на Беларусі шмат словаў, аднак вельмі скупа гаварылася пра матэрыяльную галечу, да якой прэзыдэнт Лукашэнка давёў краіну.

**К. Акула**

## ЛЁНДАН

Лёнданскі паэтычны часапіс «Маніфолд» у апошніх нумарох (№№29—31) апублікаваў пераклады твораў Натальлі Арсеньневай і Максіма Багдановіча. Трэба адзначыць, што гэтае выданьне зьвярталася да беларускае паэзіі яшчэ ў 60-я гады — то была першая рэпрэзэнтацыя беларускага вершавага слова англамоўнаму чытачу.

24 красавіка сёлета, у дзень народжаньня рэдактара «Маніфолд» Веры Рыч, у беларускім культурным цэнтры ў Лёндане адбыўся ўрачысты вечар з нагоды аднаўленьня выхаду часапіса. Праграма складалася з *vernalia* — дэклямацыі вершаў, аб'яднаных тэмаю вясны, у тым ліку прагучалі твор Я. Коласа «Вясна, вясна жаданая» ды верш самой Веры Рыч, прысьвечаны незалежнасьці Беларусі «Рэцэпт цуда» (Recipe for the Miracle).

## БЕЛАРУСКІ НАРОД НЕ ПРЫЗНАЕ ЛУКАШЭНКІ...

*(Працяг з с. 1)*

хоць, у выніку супрацьдзеяньня выбарам з боку афіцыйных уладаў, выбары мелі чыста сымбалічны характар, зьдзіўленьне было ня меншым, калі арганізатары выбараў падалі, што ў галасаваньні ўзяла ўдзел большыня зарэгістраваных выбаршчыкаў (канчатковая лічба: 53,1% — Рэд.).

Гэты нечаканы балянс, адзначае Туманаў, сапраўдная бомба запаволенага дзеяньня, няўстрымны выбух якое ў ліпені становіць няўхільную небясьпеку, што пагражае набраць міжнародны маштаб. Маскоўскія спэцыялісты, паводле Туманава, не выключаюць нават, што пасьля 21 ліпеня Лукашэнка станецца *persona non grata* для большыні краін сьвету, і ў гэткіх абставінах Масква ўстрымаецца пэдаляваць «геастратэгічнае злучэньне» Расеі й Беларусі.

**Янка Жучка**
*Бруксэль*

*Праўдзівая гісторыя*

## A PRIORI

Гэта было ў годзе 1992—1993-м. Мы сядзелі ў кабінэце тагачаснага дарадцы Шушкевіча, Івана Сцяпуры, на 5-м паверсе будынку Вярхоўнага Савету, былога ЦК. Зайшоў Саша Лукашэнка. Пілі каву, размаўлялі. Тут Лукашэнка пытаецца:

— Слушай, Сярога, как эта ты вот всё врэмя гаварыш «апрыоры-апрыоры». Што эта за слова такое?

— Ну, разумееш, Саша, гэта азначае, калі, скажам, у цыбе няма фактаў або падзея яшчэ не адбылася, але ты настолькі ў сваіх думках перакананы, што ты можаш заявіць зь перакананьнем.

Гэты выраз вельмі спадабался Лукашэнку. І ён пачаў яго ўжываць і да места і не да места. Напрыклад:

— Я апрыоры хачу заявіць па 15-у вапросу павесткі дня.

Відаць, яму нехта падрабязьней растлумачыў, што такое *a priori*, і цяпер ён выкарыстоўвае гэты выраз звычайна да места.

**Сяргей Навумчык**

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ

## РЫЧМАНД ГІЛ, НЬЮ ЁРК

Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Беларуска-Амэрыканскім Аб'яднаньні ў Нью Ёрку пачаліся з раніцы 28 сакавіка літургіяй у царкве сьв. Кірылы Тураўскага. Дзень выдаўся прыгожы, і ў царкве сабралася ладна людзей, каб узьнесьці Богу славу за Ягоныя ласкі. Служыў айцец ігумен Грэгары, хорам кіраваў сп. С. Жамойда. Пасьля набажэнства а. Грэгары сказаў з амбоны слова пра становішча на Беларусі ў 1918-м годзе, параўноўваючы яго зь сёньняшнім станам. Затым быў адслужаны малебен за беларускі народ. Пры гэтым стаяла сьцяжная варта. Скончыўся малебен прагалошаньнем беларускаму народу «Многае лета». Па заканчэньні багаслужбы ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбыўся сяброўскі пачастунак.

**Васіль Шчэцька**

## ПЭРТ, АЎСТРАЛІЯ

Ужо 42-ы раз беларусы Заходняй Аўстраліі ўрачыста адзначаюць найвялікшае нацыянальнае сьвята — Дзень абвешчаньня незалежнасьці БНР. Сёлетняе сьвяткаваньне было пачатае вітаньнем прыбыўшых старшынёю Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. Міхасём Раецкім-малодшым і адыграньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Затым былі прачытаныя прынагодныя вітаньні: ад старшыні Рады БНР спн. І. Сурвіллы, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, Згуртаваньня Беларусаў Сьвету, Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі й Беларускага Аб'еднаньня Паўднёвай Аўстраліі.

Даклад на адпаведную тэму па-ангельску зрабіў Міхаць Раецкі-малодшы, а па-беларуску Міхась Раецкі-старэйшы. Абодва даклады былі прынятыя бурнымі воплескамі.

Па заканчэньні афіцыйнай часткі быў праведзены збор ахвяраў на «Дар Сакавіка», пасьля чаго адбыўся пачастунак, за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка спадарыням Зосі й Марыльцы Ёлаб ды Марыі Мароз. Падчас пачастунку вялася размова аб распаўсюджаньні вестак «Аб дзейнасьці Лукашэнкі».

24-га сакавіка беларуская радыёпраграма была цалкам прысьвечаная сакавіковай тэматыцы.

## МАНРЭАЛЬ, КАНАДА

Беларусы Квэбэку сёлета адзначылі Сакавіковыя ўгодкі 24-га сакавіка.

Урачыстасьць пачалася цудоўным выкананьнем малітвы «Магутны Божа» Алесем Казаком, затым прагучаў беларускі гімн. Акадэмію вёў Павел Парфёнаў; прывітаўшы прысутных, ён запрасіў Старшыню Рады БНР узяць слова. Івонка Сурвілла расказала гасьцям на дзьвюх мовах Канады аб значэньні 25-га Сакавіка, а суродзічам-беларусам прачытала зварот, у якім заклікала іх працягваць змаганьне за незалежную й дэмакратычную Беларусь, папрасіла іх уявіць, якой сёньня была б нашая Бацькаўшчына, каб было дазволена нашаму працавітаму народу разьвівацца ды адбудоўваць свой вольны край, так, як гэта робяць іншыя народы сьвету, заміж працаваць на чужую імпэрыю ды ваяваць за яе.

Павел Парфёнаў, які пару дзён таму вярнуўся зь Беларусі, расказаў аб сваіх уражаньнях. «Толькі тут, за мяжой, як і ў савецкія часы, — сказаў ён, — існуюць нашыя адзіныя гістарычныя сьцяг і герб, толькі тут існуюць сапраўдная, палітычна свабодная беларуская Царква, свабода слова, нашыя газэты й часапісы. Толькі тут можна пачуць прыгожую, мілую сэрцу беларускую мову, толькі тут мы захавалі праўдзівую беларускасьць. І гэтым сваім існаваньнем мы супрацьстаўляемся ўсяму дрэннаму, што адбываецца на Беларусі й таталітарызму антыбеларускага рэжыму, які там усталяваўся».

Зь вершамі выступілі Віта й маленькі Раман Дацюкі, Зьмітрусь Будовіч, Юрка Акула, Галіна Хрэноўская, Аляксандар Мяцеліца й Валодзя Бельмач, якія прачыталі свой верш. Пасьля дэклямацыяў пачаўся канцэрт ведамых усім нам Валянтыны Пархоменкі, Алеся й Вольгі Казакоў. Акадэмія скончылася сьпяваньнем канадыйскага нацыянальнага гімну.



*Верш чытае Раман Дацюк*
*Здымак аўтаркі*

Падчас вячэры была нагода бліжэй пазнаёміцца з нашымі дарагімі гасьцямі й пагутарыць з суродзічамі ў цёплай, сяброўскай атмасфэры. Ўсе гаварылі аб наступным спатканьні, якое плянуецца на Купальле. Вялікі дзякуй належыцца сям'і Хрэноўскіх, якія былі арганізатарамі ўрачыстасьці.

**Ядвіня Вішневіч**

# ПОШТА

Працаўнік менскай газэты для дзяцей і падлеткаў «Раніца» Ўладзімер Пучынскі-Піярог зьвярнуўся ў рэдакцыю з пытаньнем:

*Ці ёсьць сярод беларускіх эмігрантаў дзеці й падлеткі, якія захацелі б ліставацца зь дзецьмі зь Беларусі (няхай сабе й не па-беларуску, а па-ангельску, па-француску), хацелі б больш даведацца пра жыцьцё на далёкай зямлі продкаў. Няхай бы завязвалася ліставаньне, сяброўства. Спадзяюся, гэта пайшло б на карысьць дзецям па абодва бакі акіяну.*

Адрас для кантактаў:
**Ул. Пучынскі, вул. Р. Люксембург, 134-2, Менск, 220036 BELARUS**

## ЛУКАШЭНКАЎСКУЮ «ІНТЭГРАЦЫЮ» ПАДТРЫМВАЕ МЕНШАСЬЦЬ ЖЫХАРОЎ БЕЛАРУСІ

«Расійскі крызіс падарваў давер да суседняй краіны» — пад такім загалоўкам у афіцыёзнай газэце «Голас Радзімы», добра знаёмай эмігрантам старэйшага пакаленьня пад назовам «За вяртаньне на Радзіму» (№17—18 за 24 красавіка—6 траўня), зьявілася нататка Яна Лахвіча, у якой падаюцца вынікі сацыялягічнага апытаньня адносна падтрымкі насельніцтвам Беларусі й Расеі пэрспэктывы стварэньня адзінай дзяржавы — інакш кажучы, анэксіі Беларусі Расеяй.

Прывядзем толькі лічбы, зьвязаныя з адказам на цэнтральнае пытаньне:

**Калі б сёньня праходзіў рэфэрэндум аб аб'яднаньні Беларусі й Расеі, вы прагаласавалі б «за» ці «супраць» аб'яднаньня?**

| | Жыхары Расеі | Жыхары Беларусі |
|---|---|---|
| **За** | 77 | 42 |
| **Супраць** | 9 | 40 |
| **Ня ўдзельнічаць у рэфэрэндуме** | 5 | 15 |
| **Няма сфармаванай думкі** | 9 | 3 |

Як вынікае з табліцы, пададзеныя зьвесткі моцна кантрастуюць з апрыёрнаю для Лукашэнкавых палітрукоў думкаю пра пагалоўнае жаданьне беларусаў упрэгчыся ў ярмо «інтэграцыі».

Статыстыка адказаў на іншыя пытаньні анкеты таксама аказалася не суцяшальнаю для «інтэгратараў».

## НОВАЕ ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ Ў БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІКОЎ

5 траўня на аўксыліярнага (дапамаговага) біскупа Пінскае Дыяцэзіі быў прызначаны Казімер Вялікаселец, дамініканін. Новы біскуп мае 54 гады, паходзіць зь вёскі Сьвятая Воля Івацэвіцкага раёну (Паўночнае Палесьсе), скончыў сэмінарыю ў Рызе, доўгі час служыў у Баранавічах.

## THE SENATE AND GENERAL ASSEMBLY

STATE HOUSE, TRENTON, N.J.

### JOINT LEGISLATIVE RESOLUTION

**By Senator VITALE, Assemblyman WISNIEWSKI and Assemblywoman FRISCIA**

WHEREAS, The Senate and General Assembly of the State of New Jersey are pleased to join the Belarusan American Association Inc. in marking and observing the Twenty-Third Biennial Convention of Belarusans in North America during the Labor Day Weekend of 1998; and,

WHEREAS, The event will also celebrate the eightieth anniversary of the Proclamation of the Belarusan National Republic on March 25, 1918, in the capital city of Minsk; and,

WHEREAS, The key objective of the Biennial Convention of Belarusans in North America is to focus on the valiant struggle to restore democracy and free-market reforms in Belarus that have been reversed by its authoritarian president; and,

WHEREAS, It is the fervent desire of Belarusan-Americans, who have brought their rich culture and traditions to benefit our society in many ways, to see that the ideals of the Belarusan National Republic — independence, democracy, and economic prosperity for Belarus — are achieved; and,

WHEREAS, It is both proper and fitting for the members of this Legislature to pause in their deliberations to note the Twenty-Third Biennial Convention of Belarusans in North America and pay tribute to its praiseworthy mission; now, therefore,

*Be It Resolved by the Senate and General Assembly of the State of New Jersey:*

That this Legislature hereby honors the leaders of and participants in the Biennial Convention of Belarusans in North America, and expresses this Legislature's sincere wish that they achieve their admirable objectives in benefit of the people of Belarus; and,

*Be It Further Resolved*, That a duly authenticated copy of this resolution, signed by the Senate President and the Assembly Speaker and attested by the Senate Secretary and the Assembly Clerk, be transmitted to the Belarusan American Association Inc.

Attest:

*President of the Senate*

*Speaker of the General Assembly*

# Э К А Н О М І К А

*Першае пытаньне, якое цяпер найчасьцей задаецца суродзічамі ў гутарцы са «сьвежымі» людзьмі з Бацькаўшчыны: Якое эканамічнае становішча ў Беларусі? Што адбываецца зь беларускай эканомікай? Якія шляхі выхаду з крызы?*

*Эканаміст зь Менску Уладзімер Мазур дае сваё — магчыма, у нечым контравэрсійнае — бачаньне сытуацыі (артыкул друкуецца зь нязначнымі скарачэньнямі).*

## ВІРТУАЛЬНАЯ ЭКСПАНСІЯ

**Паведамленьні пра эканамічны рост — дэзынфармацыя**

Афіцыйная статыстыка Рэспублікі Беларусь цьвердзіць, што ў краіне назіраецца нечуваны эканамічны рост. Аднак некаторыя экспэрты дазваляюць сабе засумнявацца ў гэтым. Рэч у тым, што кошты за мінулы год узрасьлі ў сярэднім у 6 разоў, а ва ўмовах інфляцыі аб'ём вытворчасьці можа толькі скарачацца.

Ні пра які рост аб'ёмаў вытворчасьці ня можа ісьці гаворкі й таму, што сума запазычанасьцяў у народнай гаспадарцы ўжо амаль роўная валавому нутраному прадукту, гэта значыць, чыстая вартасьць экономікі краіны ўжо амаль роўная нулю. Інакш кажучы, краіна зьяўляецца банкрутам.

Няма падставаў казаць пра нейкі рост вытворчасьці яшчэ й таму, што маюць месца чыстыя дэзынвэстыцыі: аб'ём выбыцьця асноўнага капіталу ў 2 разы перавышае ўвод асноўнага капіталу (асноўны капітал зношаны больш як на 100%). А ва ўмовах чыстага дэзынвэставаньня аб'ём вытворчасьці можа толькі скарачацца. Такім чынам, валавы нутраны прадукт скараціўся ўдвая: з $20 млн. (у 1991 г.) да $10 млн. (у 1998 г.), — і працягвае скарачацца.

**Намаганьні ўраду паправіць становішча — марныя**

Зразумела, што ўрад спрабуе ажывіць эканоміку. Так, ён павялічвае ўрадавыя выдаткі; гэткім шляхам сапраўды магчыма павялічыць сукупную прапанову, але для павелічэньня гэтых выдаткаў урад павялічвае падаткі й праз гэта скарачае сукупны попыт.

Натуральна, што ва ўмовах падзеньня аб'ёму вытворчасьці скарачаецца й аб'ём падатковых паступленьняў і ўрадавых выдаткаў. З прычыны таго, што ўрадавыя выдаткі растуць хутчэй, чым падатковыя паступленьні, у выніку павышаюцца кошты.

Акрамя таго, урад намагаецца павялічыць экспарт. Але для павелічэньня экспарту трэба павялічыць імпарт, г. зн. сукупную прапанову. Ясна, што ва ўмовах захаваньня вытворчасьці неканкурэнтназдольнае прадукцыі экспарт працягвае скарачацца хутчэй за імпарт. А як імпарт пераважае над экспартам, то гэта зноў-такі вядзе да росту коштаў.

**Роля Расеі ў беларускай эканамічнай крызе**

Як вядома, Расея — асноўны гандлёвы партнэр Беларусі. Да таго ж аб'ём гандлёвага абароту з Расеяй прыкладна роўны валавому нутраному прадукту Беларусі. Між тым, у Расеі адбываецца запаволеньне эканамічнага росту. Гэта яшчэ адзін доказ таго, што ў Беларусі ніякага эканамічнага росту быць ня можа. Інфляцыя ў Расеі ў дзясяткі (!) разоў меншая, чым у Беларусі. А таму цьверджаньні беларускага эканаміста №1 пра тое, што ў інфляцыі беларускага рубля вінаватая выключна фінансавая крыза ў Расеі, — проста байка для недасьведчаных. Несумненна, расейская крыза імгненна адбілася на беларускім рублі: ён пачаў падаць яшчэ хутчэй. Аднак беларуская інфляцыя спароджаная не расейскімі эканамічнымі суб'ектамі, а беларускім урадам, які безупынна генэруе грашовую масу (папросту кажучы, друкуе грошы), што й вядзе да гіпэрынфляцыі.

**Дынаміка росту красамоўна пярэчыць афіцыйным рапартам**

Фіктыўнасьць афіцыйных стыстычных рапартаў аб рэкордным эканамічным росьце асабліва відавочная, калі прасачыць яе дынаміку: тэмпы росту на працягу 1998 г. скакалі ад +12% да –7%. «Маладыя драконы» (героі эканамічных цудаў у Паўднёва-Ўсходняй Азіі: Тайвань, Сынгапур, Малайзія, Паўднёвая Карэя) гэтак ня рухаюцца — гэта дынаміка руху старога гада.

**На чым жа трымаецца эканамічнае «квітненьне» Беларусі?**

Краіна жыве ў доўг: за энэрганосьбіты яна практычна ня плаціць. І гэтая запазычанасьць павялічваецца. Праўда, пазыка гэтая — не зусім бясплатная: урад Беларусі плаціць каханьнем да «старэйшае сястры», хоць гэтае каханьне больш нагадвае прастытуцыю.

80% насельніцтва краіны жыве за мяжою пражытковага мінімуму. Як гэта ўдаецца? Толькі дзякуючы асноўнаму інстынкту: грэбці пад сябе. Гэтак, «ценевая», «шэрая» (паўлегальная) эканоміка па сваім аб'ёме ўжо перавысіла афіцыйную: па некаторых ацэнках яна складае 85% валавога нутранога прадукту.

Зразумела, жыць «у цені» вельмі няўтульна — насельніцтва Беларусі катастрафічна скарачаецца. Пры сёньняшніх тэмпах скарачэньня жыхарства ўжо ў наступным стагодзьдзі памрэ апошні беларус.

**Як лячыць хворага?**

Хворую эканоміку можна было б паставіць на ногі. Для гэтага, на нашую думку, трэба:

- пазбыцца камуністычнага гіпнозу. Сама беднасьць спараджае камуністычныя пэдыкулёз (пабытовая назва: вашывасьць);

(Працяг на с. 4)

**З АКАДЭМІЧНАГА ЖЫЦЬЦЯ ● З АКАДЭМІЧНАГА ЖЫЦЬЦЯ**

# «НАЦЫЯНАЛІЗМ У БЕЛАРУСІ»

## — ТЭМА СЭКЦЫІ НА КАНФЭРЭНЦЫІ Ў НЬЮ ЁРКУ

У Інстытуце Гэрымана 15—17 красавіка праходзіла чарговая канфэрэнцыя Асацыяцыі Вывучэньня Нацыянальнасьцяў (ASN), зарганізаваная Калюмбійскім Унівэрсытэтам і Ўнівэрсытэтам Браўна. Канфэрэнцыя вартая асаблівай увагі таму, што гэта адзіны ў ЗША рэгулярны навуковы форум, дзе на абмеркаваньне выносяцца, паміж іншага, пытаньні, зьвязаныя з нацыянальнымі, палітычнымі й сацыяльнымі праблемамі Беларусі.

Сёлета асобнае сэкцыйнае паседжаньне было прысьвечанае тэме «Нацыяналізм у Беларусі». На ім выступілі тры дакладнікі: Райнэр Лінднэр з Унівэрсытэту ў Канстанцы (Нямеччына), Аляксандра Ґужон зь Інстытуту Палітычных Досьледаў (Парыж, Францыя) і Астрыд Зам з Цэнтру Эўрапейскіх Сацыяльных Досьледаў (Мангайм, Нямеччына).

Р. Лінднэр у сваім дакладзе разгледзеў і параўнаў канцэпцыі нацыянальных і так званых «прыдворных» навукоўцаў у пытаньнях беларускай гісторыі ў 1990-я гады, калі нацыянальная гісторыя сталася эфэктыўным чыньнікам у працэсе пабудовы нацыі й дзяржавы. Адзначыўшы пераход ад рамантычна-публіцыстычных пазыцыяў у працах нацыянальнах гісторыкаў да сур'ёзнага навуковага разгляду, дакладнік канстатаваў, што ў гэты самы час «прыдворныя» (лаяльныя Лукашэнку) пост-савецкія гісторыкі, пераважна людзі сярэдняга веку, карысталіся старымі камуністычнымі інтэрпрэтацыямі й не стварылі нічога канцэптуальна новага, а працавалі фактычна толькі на тое, каб згары зганіць і збэсьціць працы сваіх маладзейшых калегаў, закідаючы апошнім «антысаветызм», «непрыхаваную русафобію». Асабліва яскрава гэта відаць з нападаў на Энцыкляпэдыю гісторыі Беларусі, са спробаў рэвізіі Курапатаў (маўляў, у Курапатах расстрэльвалі немцы, а не энкавэдыстыя), з факту перасьледу ўдзельнікаў канфэрэнцыі па палітычных рэпрэсіях на Беларусі. Таварыства «прыдворных» гісторыкаў «Гістарычныя веды» зьвярнулася да ўладаў з ганебным для гонару навукоўца патрабаваньнем распачаць крымінальную справу супраць дасьледнікаў зь Інстытуту Гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. Прэтэкстам для крымінальнай справы сталася нібыта тое, што канфэрэнцыя, прысьвечаная рэпрэсіям, — гэта абраза гонару прэзыдэнта Лукашэнкі. Такім чынам, вакуум гістарычнага бачаньня запаўняўся, акром старых савецкіх ідэалягемаў, таксама й палітычнамі даносамі.

Далей выступоўца асобна адзначыў часапіс «Беларускі гісторычны агляд», рэдагаваны Генадзем Сагановічам, як адзіны ў Беларусі эўрапейскага ўзроўню гісторыяграфічны пэрыёдык.

А. Ґужон зрабіла спробу прааналізаваць моўную сытуацыю ў Беларусі ў сьветле палітычных падзеяў 1990-х гадоў. Яна адзначыла скрайнюю палітызацыю моўных пытаньняў і падкрэсьліла, што публічнае карыстаньне беларускай мовай успрамалася ўладамі, асабліва падчас мітынгаў і дэманстрацыяў супраць рэжыму, — як праява супраціву рэжыму, вартая перасьледу. Мелі месца шматлікія выпадкі арыштаў людзей толькі за карыстаньне беларускай моваю ў грамадзкіх месцах.

Сапраўды, у выніку этналінгвістычных працэсаў, неспрыяльных для беларускасьці, літаратурнай беларускай мовай як камунікатыўным сродкам карыстаюцца выключна прыхільнікі незалежнасьці Беларусі й прыярытэтнага разьвіцьця беларускае нацыянальнае культуры. Гэтая ж сацыяльна-палітычная група зьяўляецца найбольш відавочным асяродзьдзем супраціву рэжыму Лукашэнкі.

Спн. Ґужон таксама адзначыла існаваньне дзьвюх сыстэмаў беларускага правапісу як факт, што адлюстроўвае паралельнае існаваньне дзьвюх культураў, прычым афіцыйная пост-савецкая беларуская культура ўсё відавочней дэградуе, ператвараючыся ў мёртвы кніжна-канцылярскі дадатак да расейскамоўнага афіцыйнага дыскурсу, трансьляцыяй якога яна зьяўлецца.

А. Зам разгледзела значэньне нацыянальных сымболяў у палітычнай культуры Беларусі, у тым ліку — дзьве мадэлі дзяржавы — Вялікае Княства Літоўскае й БССР. Дасьледніца зрабіла выснову, што нацыянальна-дзяржаўная сымболіка й нацыянальныя мэмарыяльныя даты, разам з «Законам аб мовах» і палітычнай дзейнасьцю БНР, абслугоўвалі радыкальныя тэндэнцыі ў нацыянальным і палітычным працэсе ў Беларусі. Таму, на думку спн. Зам, яны сталіся адкінутыя большасьцю насельніцтва Беларусі, якое было не гатовае да незалежнасьці й больш схілялася да захаваньня савецкага *status quo*, дзеля чаго пазытыўна ўспрыняло вяртаньне мадэрнізаванае савецкае сымболікі ды афіцыйнага дзьвюхмоўя.

Спн. Зам таксама адзначыла, што




*Удзельнікі канфэрэнцыі (зьлева): Р. Лінднэр, А. Зам, В. Марплз, А. Ґужон*

**РАТГЭРСКІ ЎНІВЭРСЫТЭТ, Н. ДЖ.**

27 красавіка на катэдры палітычных навукаў Ратгэрскага Ўнівэрсытэту др. Віталь Сіліцкі прачытаў даклад аб палітычным становішчы ды стане адміністратыўных кадраў на Беларусі.

Дакладнік падкрэсьліў, што ў адміністратыўным апараце выразна назіраецца нізкая кваліфікацыя, непадрыхтаванасьць службоўцаў, гэта асабліва адчуваецца ў галіне эканомікі.

## ВІРТУАЛЬНАЯ ЭКСПАНСІЯ

*(Працяг з с. 3)*

- прызнаць, што Беларусь жыла й жыве пры фэўдалізьме, таму нам яшчэ належыцца прайсьці той жа шлях, які прайшлі ўсе разьвітыя краіны. Пошукі нейкага «асаблівага шляху разьвіцьця» непазьбежна вядуць у тупік, зь якога ёсьць толькі адно выйсьце — назад. Зараз Беларусь ідзе вядома адкуль — невядома куды: з «сацыялізму разьвітага» ў «сацыялізм рынкавы».
- згадзіцца з тым, што сацыялізм — гэта ўтопія;
- прыняць за аксыёму, што без унутраных інвэстыцыяў разьвіцьцё немагчымае. А для таго, каб насельніцтва ўкладала свае ашчаджэньні не ў замежную валюту, а ў айчынную эканоміку, неабходна рэзка зьнізіць падаткавы прэс;
- прызнаць, што Беларусь — недаразьвітая дзяржава (Галяндыя ці Малайзія — краіны, па колькасьці насельніцтва супастаўляльныя зь Беларусьсю, — экспартуюць у дзясяткі разоў больш; зрэшты па экспарце яны перагналі й Расею. Пры гэтым трэба ўлічыць, што калі гэтыя краіны экспартуюць пераважна высокатэхналягічную прадукцыю, то Беларусь — угнаеньні й даўгавыя вэксалі);
- зразумець, што бізнэс — гэта не спэкуляцыя, а даброта для ўсіх (Дарэчы, у таго, каго сёньняшнія беларускія ўлады лічаць спэкулянтамі, цэны на тавары ніжэйшыя, чым у дзяржаўным гандлі);
- спасьцігчы, што эканамічнае квітненьне можа грунтавацца толькі на прыватнай маёмасьці (Паняцьці «грамадзкае» й «маёмасьць» — несумяшчальныя; тое, што зараз у Беларусі афіцыйна называецца «грамадзкай маёмасьцю» ў сапраўднасьці зьяўляецца прыватнай уласнасьцю чыноўнікаў. Аднак калі прыватная ўласнасьць ператварае пясок у золата, то «грамадзкая ўласнасьць» ператварае золата ў здабычу залатароў).

З сказанага вынікаюць наступныя канкрэтныя меры:

1. Падаткі павінны паселянець: трэба абкладаць падаткамі ня столькі добрае (праца, інвэстыцыі), колькі дрэннае (гарэлка, цыгарэты). Падатковыя ільготы павінны быць толькі для тых, хто інвэстуе свае ўласныя сродкі (між тым, у нас падатковыя ільготы прэзэнтуюцца ўбогім).

2. Урэзаць урадавыя выдаткі, бо нам не патрэбныя:

— гэткае войска — сувэрэнітэту нашай краіны пагражаюць найперш ня зьнешнія ворагі, а ўласны прэзыдэнт;

— гэткая міліцыя, занятая больш дэманстрантамі, чым крымінальнікамі;

— гэткая сельская гаспадарка, ня здольная пракарміць нават сябе;

— гэткая прамысловасьць, якая вырабляе для таго, каб вырабляць.

3. Увесьці палітыку манэтарнае экспансіі пры дадатнай рэальнай працэнтовай стаўцы (зараз стаўка фактычна адмоўная).

4. Адрадзіць інстытут прыватнае ўласнасьці.

Зрабіць гэта няпроста. Рэч у тым, што ўлада засталася ў руках чырвоных паноў (а каго яшчэ могуць абраць прыгонныя?!). І гэтыя паны зусім не зацікаўленыя ў адраджэньні інстытуту прыватнае ўласнасці. Аднак чыноўнікі прадаюцца. Таму спадзявацца можна толькі на бізнэс, які здольны купіць чыноўнікаў, бо чырвоныя паны — гэта такая ж галота, як і іх прыгонныя. Зрэшты, так ужо й адбылося: рэальная ўлада і ў Беларусі, і ў Расеі належыць аднаму й таму ж чалавеку — былому выканаўчаму сакратару СНГ.

Такая ўлада падабаецца далёка ня ўсім. Але каб пазбавіцца ад яе, беларусам трэба адчуць сябе нацыяй. І гэты цуд — магчымы: ён ужо зьдзейсьніўся ў Ізраілі. Гэтае дзяржавы не існавала 2000 гадоў, і 2000 гадоў на іўрыце не размаўлялі. Вядома, такі шлях тоіць у сабе небясьпеку: габрэі Ізраілю сёньня ня могуць знайсьці агульнае мовы з усімі народамі, што яго насяляюць. Аднак іншага шляху няма.

**Уладзімер Мазур,**
**Ph. D., P. E.**
*United Nations Project Macroeconomic Forecasting System Expert*

## З АКАДЭМІЧНАГА ЖЫЦЬЦЯ ● З АКАДЭМІЧНАГА ЖЫЦЬЦЯ

беларускай апазыцыі яшчэ трэба шмат працаваць, каб зрабіцца рэальнай палітычнай сілай на Беларусі.

Апанэнтам па дакладах на сэкцыі выступіў прафэсар Унівэрсытэту правінцыі Альбэрта (Канада) Дэйвід Марплз, аўтар дзьвюх кніг па гісторыі Беларусі.

У дачыненьні даклада сп. Р. Ліндныэра праф. Д. Марплз заўважыў, што сапраўды «прыдворныя» гісторыкі Лукашэнкі пераважна рэагуюць на працы нацыянальна арыентаваных беларускіх гісторыкаў і фактычна не стварылі нічога новага ў постсавецкі час. Застаючыся ідэёва савецкімі, яны бачаць у Лукашэнку рэстаўратара мінулага й уплываюць на яго, часта непасрэдна, каб паспрабаваць зьнішчыць або хоць бы прыпыніць разьвіцьцё беларускай нацыянальнай гістарычнай думкі.

Па дакладзе спн. А. Ґужон было адзначана, што працэс палітызацыі мовы патрабуе далейшага разгляду.

Што да асобных цьверджаньняў у дакладзе спн. А. Зам, то апанэнт заўважыў: меркаваньне аб непрыняцьці беларусамі незалежнасьці не зусім стасуецца з фактамі. Гэтак, папулярнасьць Шушкевіча (прыхільніка незалежнасьці) па апытаньнях 1991—92 гг. складала больш за 50%, чаго сёньня ня мае нават Лукашэнка. Разам з тым апанэнт лічыць, што рэжым Лукашэнкі — гэта форма, хай сабе й спэцыфічная, будаваньня беларускае нацыі. Дзеючы ад імя сувэрэннае нацыі, Лукашэнка — хочучы ці ня хочучы — умацоўвае яе дзяржаўную структуру. На думку праф. Д. Марплза, асноўнай хібай нацыянальных сілаў былі разьяднанасьць незалежніцкіх партыяў і слабая праца ў стварэньні мясцовых структураў па ўсёй краіне.

Сп. Марплз не пагадзіўся з спн. Зам у ейнай ацэнцы апазыцыі, адзначыўшы, што апазыцыя ўжо сёньня ёсьць рэальная палітычная сіла. Акрамя таго, «Закон аб мовах» і дзейнасьць БНФ цяжка лічыць радыкальнымі згодна з агульнапрынятымі сусьветнымі стандартамі.

Затым абмеркаваньне працягвалася ў агульнай дыскусіі, у якой, побач зь іншымі, удзельнічалі др. Алена Гапава

## БЕЛАРУСАВЕДНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ГАРВАРДЗКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

«Беларускі фактар: значэньне для Расеі, Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы й Захаду» — тэма міжнароднае канфэрэнцыі, якая адбылася ў Гарвардзкім Унівэрсытэце 22—23 красавіка сёлета. Канфэрэнцыя была арганізаваная сіламі дзейных пры Гарвардзе Украінскага Дасьледчага Інстытуту ды Цэнтру Вывучэньня Расеі імя Дэвіса. У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел 75 навукоўцаў і экспэртаў зь Беларусі, ЗША, Канады, Францыі, Нямеччыны, Украіны, Расеі, Чэхіі, Летувы й Польшчы.

Адкрываючы канфэрэнцыю, праф. Тыматы Колтан, дырэктар Цэнтру Вывучэньня Расеі, падкрэсьліў важнасьць гэтай падзеі з прычыны слабой абазнанасьці сьвету зь беларускай гісторыяй і сучаснай рэчаіснасьцю. Як адзначалі пазьней удзельнікі дыскусіяў, канфэрэнцыя гэтая — упершыню на Захадзе такая прадстаўнічая — сталася сапраўды гістарычнай падзеяй.

На працягу двух дзён было заслухана больш за 20 дакладаў і выступаў, па кожным дакладзе адбыліся дыскусіі. На пяці сэсіях разглядаліся тэмы: «Кансалідацыя рэжыму й пэрспэктывы яго зьмены»; «Беларуская эканоміка: цуд ці развал?»; «Расея й Беларусь: узаемнае ўспрыманьне і ўплывы»; «Беларусь і эўрапейская бясьпека»; «Выклік Беларусі Захаду: падыходы да ўзаемных кантактаў».

Дакладнікамі, сярод іншых, былі шэф місіі АБСЭ ў Менску амбасадар Ганс-Георг Вік, прадстаўнік «Хартыі-97» Андрэй Саньнікаў, нямецкі гісторык Райнэр Ліндэнэр, кіраўнік Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» Аляксандар Лукашук, прафэсар БДУ Ўладзімер Снапкоўскі, спэцыялісты з урадавых установаў і дасьледчых цэнтраў з Вашынгтону, Масквы, Кіева, Вільні, Варшавы. Госьцём быў таксама дарадца беларускага пасольства ў Вашынгтоне Леанід Сеньнікаў.

У першы дзень канфэрэнцыі адбылося прыняцьцё, на якім галоўным прамоўцам быў пасол ЗША ў Беларусі (часова адкліканы зь Менску) Дэніэл Спэкгард. Ён гаварыў пра свае вялікія намаганьні наладзіць шырокія амэрыканска-беларускія кантакты ды нястачу прыхільнасьці да ягоных ініцыятываў з боку афіцыйных асобаў у Менску. На другі дзень прамаўляў за абедзеным сталом аўтар гэтых радкоў на тэму «Разьвіцьцё беларусаведных дасьледаваньняў на Захадзе пасьля 1945 году».

Падзея гэтая ў аднэй з найбольш прэстыжных ВНУ Амэрыкі, мае вялікае навуковае й палітычная значэньне. Яна сьведчыць перш-наперш пра рост міжнароднай увагі да Беларусі, да працэсаў, якія адбываюцца там і якія маюць глыбокі геапалітычны кантэкст. Беларусь апынулася на шляху расейскага рэваншу супраць Захаду, сталася пунктам ціску Крамля да аднаўленьня страчанай імпэрыі. Працэсы на Беларусі й курс беларускай палітыкі маюць беспасярэдні ўплыў на палітычныя настроі ў суседніх дзяржавах і шырэй у сьвеце. Пры няўстойлівасьці расейскай эмбрыённай дэмакратыі й дыктатарскім рэжыме ў Беларусі, на заходнім рубяжы Расеі, беларускі «фактар» можа стацца лёсавызначальным для іншых краінаў. Адсюль ягонае міжнароднае значэньне і ўзмоцненая ўвага да яго.

Падсумоўваючы вынікі двухдзённай працы, праф. Раман Шпарлюк, дырэктар Украінскага Дасьледчага Інстытуту пры Гарвардзкім Унівэрсытэце, выказаў спадзяваньне на хуткі выхад матэрыялаў канфэрэнцыі друкам. Выхад кнігі заплянаваны да сёлетняга штогадовага кангрэсу Асацыяцыі Амэрыканскіх Славістаў, які адбудзецца ў канцы кастрычніка.

**Янка Запруднік**

й Уладзімер Снапкоўскі зь Менску, др. Янка Запруднік і Віталь Зайка.

Палітоляг зь Лёнданскага Ўнівэрсытэту Тарас Кузё заўважыў, што рэжым Лукашэнкі хутчэй аўтарытарны, чым таталітарны, зь вельмі хісткімі ідэалягічнымі падваліінамі, і панславізм наўрад умацуе іх. Р. Ліндэнэр у адказ адначыў, што ідэалёгія рэжыму знаходзіцца ў стане стварэньня, і пакуль што гэта — сумесь савецкай і панславісцкай рэторыкі, стыхійнае непрыняцьце заходніх ідэяў і лібэралізму.

Др. Джон Гарлэнд, які выкладае ў Гарадзенскім Унівэрсытэце, у якасьці прыкладу ўзмацненьня аўтарытарызму ўзгадаў выпадак: дыск-джакей на мясцовай дыскатэцы паскардзіўся, што яму прапанавалі ўступіць у БПСМ (лукашэнкаўскі варыянт камсамолу), бо інакш ён можа страціць працу.

Падчас канфэрэнцыі адбыўся прагляд і абмеркаваньне фільма Ю. Хашчавацкага «Звычайны прэзыдэнт».

У дыскусіі Рычард Блэнк з Мэйнскага Ўнівэрсытэту паставіў пад сумнеў правамоцнасьць параўнаньня Лукашэнкі з Гітлерам і Сталінам. Яму апанавалі Глэн Кэмп з Браянт Каледжу, А. Гужон, Д. Марплз. Таксама закраналіся пытаньні ролі інтэлігенцыі й сродкаў масавай інфармацыі ў палітычным працэсе на Беларусі.

Др. А. Гапава з Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту (Менск) выступіла на сэкцыі «Постсавецкая саматоеснасьць» з дакладам пра канкураваньне мадэляў нацыянальнай саматоеснасьці ў Беларусі й адзначыла, што ідэя вяртаньня ў Эўропу, карыстаньне беларускаю моваі, гістарычнымі сымбалямі й стварэньне ідэалёгіі беларускага нацыяналізму можа быць найбольш натуральным і найбольш эфэктыўным сродкам будаваньня нацыі.

Др. Кэрт Ўулгайззр (Curt Woolhiser) з Тэксаскага Ўнівэрсытэту меў даклад на тэму фармаваньня нацыянальнай саматоеснасьці на польска-беларускім памежжы, а Вольга Бялова зь Інстытуту Палітычных Дасьледаў (Парыж) рэпрэзэнтавала параўнаўчы аналіз асаблівасьцяў фармаваньня палітычнае сыстэмы ў посткамуністычных краінах на прыкладзе Беларусі й Украіны.

**Віталь Зайка**

## ЗВЫЧАЙНЫ ТЭРОР

*(Працяг з с. 1)*

тураў БНФ — вырашыў адыйсьці ад удзелу ў якой бы ні было палітычнай чыннасьці. Не, ён не зьняверыўся, яго не купілі добраю пасадаю ці дзяржаўнаю кватэраю. Яго проста запалохалі, стэрарызавалі. І небясьпека пагражала не яму — ён бы, я веру, выстаяў. Карнікі з «капустай» на кукардах пачалі цэліць у самае дарагое, што можа быць у чалавека, — у ягонае дзіця, у сына. І чалавек адступіўся, спалохаўся.

Злачынствы такога кшталту (маю на ўвазе псыхічны тэрор) звычайна застаюцца не заўважанымі, не фіксуюцца праваабарончымі арганізацыямі. Аднак было б несправядлівым — як у адносінах да годнасьці пацярпелых людзей, так і ў адноснах да Праўды — пакідаць такія выпадкі без увагі, такім чынам аб'ектыўна патураючы бандытам у пагонах — паслухмяным выканаўцам волі палітычнага мафіёзі.

Зрэшты, не заўсёды набываюць належны розгалас і больш «відавочныя» акцыі. Засталася амаль незаўважанаю сьмерць прадпрымальніка Аляксея Шпака. Працаваў у праваахоўных органах, сышоў, пачаў займацца бізнэсам. Заўсёды заставаўся сьведамым беларусам, таму, узьбіўшыся на капейку, пачаў фінансава падтрымваць апазыцыю. Відаць, за гэта й атрымаў кулю ў сьпіну...

**Дамінік Лось**

### ДЗЯКУЕМ

за дасланыя матэрыялы
А. Маркевічу, М. Швэдзюку.

*Да 85-годзьдзя з дня народзінаў Віктара Жаўняровіча*

# БЕЛАРУСЬ, ГЭТА ДЗЕЦІ ТВАЕ

*Puisque les jours nous abandonnent*
*Comme une guir lande fanée*
*Cherchous ailleurs une couronne*
*Abandonnée*

**Y. Apollinaire**

*Я знарок узяў у якасьці назвы для гэтага артыкула радок з маёй песьні пра эміграцыю, якую злажыў напярэдадні Першага Зьезду Беларусаў Сьвету. Тады, яшчэ не эмігрант, а супрацоўнік сакратарыяту міністра замежных справаў Пятра Краўчанкі, я адказваў за падрыхтоўку зьезду ад імя ўрадавых структураў і зьяўляўся сакратаром аргкамітэту.*

*Незадоўга перад гэтым на калегіі міністэрства я рэпрэзэнтаваў свае прапановы ў сувязі з будучым зьездам; тут згадаю толькі дзьве: выдаць эмігрантам беларускія пашпарты (я дамогся толькі таго, што ім выдалі аднаразовыя бясплатныя візы); стварыць пры міністэрстве невялікі дэпартамэнт па справах эміграцыі (у маленькай Харватыі існуе нават адпаведнае міністэрства).*

*Свой выступ я скончыў словамі аб тым, што беларуская эміграцыя, хоць і ня дужа багатая ў фінансавым сэнсе, але мае значны патэнцыял у галіне навукі, мастацтва, культуры. Але міністар Краўчанка перапыніў мяне й сказаў, што я ідэалізую эміграцыю, што сярод беларускіх эмігрантаў шмат людзей, у якіх «рукі па локці ў крыві».*

*Я ніколі не ідэалізаваў эміграцыю раней, а цяпер, калі сам апынуўся ў гэткім становішчы — тым больш. Але я яшчэ больш усьвядоміў, якую неверагодную працу зрабілі нешматлікія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, выкінутыя па волі злога лёсу за межы сваёй бацькаўшчыны.*

*Адзін з гэтых людзей, Віктар Жаўняровіч, знаны на Захадзе мастак, пра якога амаль нічога невядома ў Беларусі.*

## I

Якраз у дні Першага Зьезду Беларусаў Сьвету газэта «Літаратура і мастацтва» зьмясьціла невялікую зацемку ведамага паэта Сяргея Панізьніка, які, спасылаючыся на артыкул Барыса Сачанкі ў часапісе «Маладосьць» (1988, № 11), дзе ўпершыню згадвалася пра В. Жаўняровіча, — расказвае, што сам ён (таксама паходзіць зь Дзісьненшчыны) атрымаў першыя зьвесткі пра мастака й упершыню ўбачыў ягоныя творы ў хаце Генадзя Крупенькі, далёкага родзіча Жаўняровіча.

Згодна з гэтымі зьвесткамі, В. Жаўняровіч яшчэ да памятнага 1939 году выехаў з Прыдзьвіньня ў Францыю (?). Барыс Сачанка адводзіць Жаўняровічу ўсяго некалькі радкоў: «Вучыўся ў кансэрваторыі імя М. Карловіча. Быў знаёмы з Рушчыцам, Драздовічам, Сергіевічам. Яго залічваюць да імпрэсіяністаў. Прымаў удзел у многіх выстаўках у Парыжы, меў персанальную выстаўку ў Нью-Йорку. Тэмы твораў у асноўным беларускія».

Як згадвае Б. Сачанка, В. Жаўняровічу магло б на сёньня быць за 90 гадоў (у 1988 годзе!). У апошні час жыў пад Парыжам. Яго далёкая сваячка Раіса Растова ў лісьце з Огрэ (Латвія) таксама такой жа думкі: «На жаль, мае бацькі перапіскі зь ім ня мелі. Мама расказвала, што ён апошнія гады знаходзіўся ў Францыі. Калі толькі ён жывы, то яму больш за 90. Ад дальніх родзічаў ведаем, што ён усё сваё жыцьцё займаўся жывапісам, вельмі маркоціўся па радзіме. Прыблізна гадоў 14—15 таму назад яго адшукала дачка Віктаравага брата Міхала Жаўняровіча, Софія, і нявестка Міхала, Галя (Менск). Софія зараз жыве ў Лодзі (Польшча). А ў Друі жыве жонка ягонага брата Аляксандра — Ксенія. У нас тут у Огрэ ёсьць чатыры невялікія работы Віктара: гэта падарунак мастака маёй цётцы Насценьцы...»

«Вядома, — завяршае С. Панізьнік свой кароткі нарыс пра В. Жаўняровіча, — што цяжка сёння дабрацца і да Лодзі, і да Огрэ, але радуе адно: некалькі пейзажаў В. Жаўняровіча захоўваюцца ў Гомелі — у настаўніка Святаслава Крупенькі, сына Генадзя Крупенькі з вёскі Грудзінава, што пад Лявонпалем (Дзісненшчына)».

Вось і ўсё пра мастака, які заслугоўвае некалькіх бачынаў у беларускай энцыкляпэдыі, дзе не пашкадавалі месца для розных намэнклятуршчыкаў і рэнэгатаў.

Але нават і гэтыя сьціслыя зьвесткі не ва ўсім дакладныя. Па-першае, Віктар Жаўняровіч, якога на радзіме ўжо даўна лічаць за памёрлага, — жыве паўнакроўным жыцьцём: малюе новыя творы; сьпявае прыемным барытонам, акампануючы сабе на электраргане; складае цудоўныя апавяданьні й нават піша араторыі; сыпле жартамі й народнымі прымаўкамі, цытатамі зь беларускай, польскай і расейскай літаратураў, якія глыбока ведае; цікавіцца новымі адкрыцьцямі сусьветнай навукі, асабліва ў галіне фізікі, хіміі, біялёгіі; яго моцна хвалююць пытаньні экалёгіі. А яшчэ ён любіць паўтараць: «Мой дом — поўная чаша». І сапраўды, ён амаль кожны дзень прымае гасьцей, якія купляюць у яго абразы, на якіх яшчэ ня высахла фарба. А яшчэ Жаўняровіч дужа ганарыцца тым, што ён атрымаў у Францыі нямала ўзнагародаў і прызоў, але найдаражэйшы для яго — мэдаль, які ў свой час атрымаў толькі адзін з славянскіх мастакоў — расеец Рэпін.

Аднак усё па парадку.

## II

Вернемся да тых далёкіх часоў, калі ўнутраны сьвет будучага мастака толькі пачынаў фармавацца. Цяпер пэдагагічная навука сьцьвярджае, што фармаваньне гэтае адбываецца ва ўзросьце 3—5 гадоў. Што ж найбольш паўплывала на ўражлівага хлопчыка ў раньнім дзяцінстве?

Віктар Жаўняровіч нарадзіўся не на Дзісьненшчыне, як пісаў Барыс Сачанка, а на Далёкім Усходзе, дзе працаваў ягоны бацька. Ён зьявіўся на сьвет 27 жніўня 1913 году, а дзяцінства й юнацтва правёў у Друі, на Дзісьненшчыне.

Вось што ўзгадгае пра свой побыт на Далёкім Усходзе сам Віктар: «Я часта езьдзіў з бацькамі ў Хабараўск. Хабараўск быў тады кітайскім горадам. Як увойдзеш у Хабараўск, дык там — самыя кітайцы; паўсюль стужкі, ліхтары, а ў кожным кітайскім рэстаране ёсьць акварыюм. Там усё кітайскае. Расейцаў было мала. Карэйцаў я бачыў таксама: яны хадзілі ў белым, і такія стаячыя шапкі ў іх. Гэта жалоба ў іх была. У нас чорнае апранаюць, калі жалоба, а карэйцы — белае... Памятаю гарады з цікавымі назвамі: Архара, Амазар... Яшчэ была станцыя, нядаўна пабудаваная расейцамі, — Бачкарова...»

І тут мастак, здавалася б, далёкі ад палітыкі, робіць высновы: «Кітай мусіць мець вайну з Расеяй, бо там заўсёды была спрэчка за Сібір. Кітайцы казалі ў Хабараўску: «Наша і там, і тут жыла». В. Жаўняровіч задумваецца, потым дадае: «Я маю кнігу айца Язэпа Гэрмановіча. Ён піша, што там цяпер шмат чаго зьмянілася...»

Бацькі неўзабаве вярнуліся на Беларусь, і хлопчык жыў далей у пасёлку Друя, пад наглядам сваёй бабулі, дзявочае прозьвішча якой было Шауман. Сам Жаўняровіч сьцьвярджае, што акрамя крывіцкай, у яго жылах ёсьць латгальская й нават тэўтонская кроў. Таму ня дзіўна, што прозьвішча ягонае паходзіць ад слова «жаўнер».

Неяк хлопчык знайшоў старадаўні мушкет, падобны да невялічкае гарматы з латуні, гуляў зь ёю ў вайну... Але найбольш яго захаплялі казкі, паданьні, прымхі роднага краю. Ён і да сёньня ня можа забыцца сьвяткаваньня Дзядоў у сваёй хаце, калі бабуля кідала пад стол крыху куцьці ды казала: «Сьвятыя Дзяды, хадзеце вячэраць з намі». Потым цэлую ноч Віктар ня мог заснуць: у кожным куце яму мроіліся сівыя дзяды.

А яшчэ ён вельмі баіцца зданяў. Успамінае, што часта бачыў іх, бывала, адну й тую ажно да сямі разоў. Яго на ўсё жыцьцё ўразіла «хатка на курыных ножках» — мясьціна, дзе спрадвеку хавалі пазачасна народжаных.

Вакол была чароўная беларуская прырода, якая ўзмацняла рамантычны настрой будучага мастака. Вось так і сфармаваўся сьветапогляд В. Жаўняровіча як творчай асобы. Ён жывіўся з роднай зямлі, з паданьняў, што пераказвала бабуля, зь песьняў, што сьпявала маці й якія ён працягвае сьпяваць ужо шмат гадоў! Сп. Віктар прасьпяваў мне такую шчымлівую песьню пра дзяўчыну, якую выдавалі замуж, што я заплакаў. І ў гэтай песьні я адчуў падабенства лёсу мастака, вымушанага жыць на чужыне, зь лёсам дзяўчыны, якую выдалі замуж далёка ад роднай хаты:

*Каб не была паветачка за хатку,*
*Каб не была суседачка за матку,*
*Каб не стаяла цёмнай ночанькай*
*пад вакном,*
*Каб не выцірала горкіх слёзачак*
*сваім рукаўком.*

Другім чыньнікам, які паўплываў на фармаваньне творчай асобы В. Жаўняровіча, стала яго вучэньне ў мясцовага дзяка. Хлопчык рана пачаў чытаць царкоўнаславянскія тэксты, сьпяваць у хоры.

Дарэчы, Віктар узгадвае, што ўсе хрысьціянскія сьвяты ў яго мясьцінах адзначаліся супольна: і каталікамі, і праваслаўнымі, і пратэстантамі. Дома, калі сядалі за стол, яго дзядзька, па прафэсіі адвакат, паўтараў заўсёды: толькі не гаварыць пра рэлігію й пра палітыку.

Але, на вялікі жаль, палітыка сама нагадала пра сябе.

## III

Мастак успамінае 1939-ы год, потым 1941-ы, нарэшце выцягвае са свайго асабістага архіву мабілізацыйную позву, выдадзеную ў чэрвені 1944 году, друкаваную беларускаю моваю.

І вось, апрануты ў нямецкі мундзір, юнак разам зь іншымі беларусамі рухаецца на Захад. Спакойнаму, разважліваму, надзейнаму жаўнеру (нездарма ж ён Жаўняровіч!) немцы даручаюць быць кур'ерам (Melder), які мусіць на ровары перавозіць загады. Мастак падрабязна тлумачыць мне, што ровар меў адмысловае прыстасаваньне, каб зьнішчыць паперы, калі трапіш у палон. Неяк ва Ўсходняй Прусіі немцы пашыхтавалі беларускіх жаўнераў і сказалі ім, што адпусьцяць тых, хто пажадае вярнуцца дадому. Некаторыя выйшлі, а Жаўняровіч вырашыў застацца ў шэрагах. Тых, хто выйшаў, немцы неўзабаве расстралялі.

Аднойчы паслалі Віктара Жаўняровіча разам зь немцам у выведку, яны заблукалі ў тумане й ледзь ня трапілі ў палон. Успамінае яшчэ, як спаткаў аднойчы дзьвюх зьнясіленых дзяўчат, з тых, каго немцы вывезьлі на працу. Віктар пашкадаваў іх і аддаў ім увесь свой паёк.

«А перад гэтым у Прыбалтыцы быў яшчэ цікавейшы выпадак», — успамінае мастак. Неяк ён зайшоў у касьцёл, адкуль чулася арганная музыка. Арганіст і прысутныя там людзі сумеліся, убачыўшы чалавека ў вайсковай форме, са зброяй. Віктар наблізіўся да арганіста, зьняў з галавы свой шолам, паставіў побач стрэльбу й папрасіў арганіста, каб той зайграў з Бэтховэна. Арганіст зайграў, а Віктар пачаў сьпяваць... Чысты барытон лунаў пад сутарэньнямі касьцёлу, хваляваў і цешыў змучаныя ваенным нягодамі душы прысутных. Шмат у каго на вачах заблішчэлі сьлёзы. Як гэтыя людзі потым дзякавалі Віктару за яго сьпевы!

Далейшы лёс Віктара Жаўняровіча склаўся даволі тыпова для беларускага выгнаньніка. Вайна скончылася. Назад вяртаньня не было, хоць ён нічога злачыннага не зрабіў, нікога не забіў.

«Я ўвесь час задаваў сабе пытаньне, — кажа ён. — Забіць чалавека? Навошта? Я ж яго ня знаю, ён мяне ня знае... А я яго застрэлю... Я кожны дзень бачыў забітых людзей, бачыў бамбардыроўкі, пажары... Ведаеш, калі бомба падае, дык дом скрыпіць, як зубы скрыпяць... Вінаватыя тыя, хто распальвае вайну, хто правакуе яе. Іх трэба судзіць».

Спачатку ён быў у Нямеччыне. Палкоўнік Кушаль дапамог перабрацца яму ў амэрыканскую зону. А праз нейкі час Віктар трапляе ў Францыю.

# НОВЫЯ КНІГІ

**Яўхім Кіпель. Эпізоды. Пад рэдакцыяй Ілоны Ўрбановіч і Зьміцера Саўкі. Нью Ёрк, 1998. XVI+305 с.**

У кнізе — успаміны аўтара пра беларускі рух у 20-х гадох, жыцьцё на высылцы й у канцлягерох у 30-я гады, беларуская дзейнасьць у часе нямецкае акупацыі й на эміграцыі. Некаторыя выказваньні Я. Кіпеля — выдатная характарыстыка беларускіх дзеячаў ягонага пакаленьня. Прыкладам, на прапанову энкавэдыстых выступіць у друку з асуджэньнем беларускага руху аўтар адказаў: «Выступаць супраць свае дзейнасьці я ня буду» (адмова каштавала 5-гадовае адсідкі ў канцлягеры). Беларускую працу ў часе нямецкай акупацыі Я. Кіпель ацэньваў пазытыўна: «Беларусы павінны былі задэманстраваць свае палітычныя імкненьні». На апошнім этапе свайго жыцьця аўтар «зь вялікай прыемнасьцю дэмаскаваў савецкі рэжым» перад амэрыканскім Кангрэсам.

**Лявон Крывічанін (Савёнак-Свэн). Беларусізацыя пад №... Рэдактар і аўтар прадмовы Лявон Юрэвіч. Нью Ёрк, 1998. 164 с.**

Лявон Савёнак, працуючы ў БССР у 20-х гадох, крытычна ставіўся да афіцыёзнай беларусізацыі тых часоў, паказваў праблемы беларускага грамадзтва ды варожасьць уладаў да беларускасьці. Ягоная кніга «Чароўная іголка» (1929) была амаль цалкам сканфіскаваная, захаваліся лічаныя асобнікі. Новае выданьне ўяўляе сабою збор выбраных твораў Л. Крывічаніна: раман «Дзёньнік Івана Чужанінава», фэльетоны 20-х гадоў і пэрыяду ДП. Сам факт выхаду кнігі — акцыя вяртаньня нашай літаратуры яшчэ аднаго пісьменьніцкага імені.

**С. Ёрш. Вяртаньне БНП / Архіў найноўшае гісторыі. Менск, 1998. 185 с.**

Вартасьць гэтай кнігі найперш у тым, што ў ёй можна знайсьці зацемкі пра нашых герояў — генэрала Вітушку, др. Багдановіча, У. Родзьку, а таксама інфармацыю ад жывых сьведкаў падзеяў Другое Сусьветнае вайны на тэрыторыі Беларусі.

У зьвязку з гэтым хацелася б дапоўніць, магчыма, і ўдакладніць некаторыя зьвесткі, выкладзеныя аўтарам.

Паводле маіх уяўленьняў, Беларуская Незалежніцкая Партыя ўзьнікла ў чэрвені 1942 году, калі мы — Усевалад Родзька, Юліян Саковіч, Антон Ада-

*(Працяг на с. 8)*

# ЛІТАРАТУРА

## T. S. ELLIOT У ПЕРАКЛАДАХ ЯНКІ ЮХНАЎЦА

Амэрыканская паэзія XX ст. — гэта найперш імёны Т. С. Эліата й Эзры Паўнда. Яны пазнаёміліся ў Лёндане ў 1914 годзе й, атакаваныя з усіх бакоў — крытыкамі, выдаўцамі, чытачамі, — паразумеліся. Пры ўсёй сваёй адметнасьці, паэтычнай апрычонасьці Эліат і Паўнд пагадзіліся на тым, што паэзія мусіць пісацца й тлумачыцца як проза.

Яны змагаліся за правы быць пачутымі. Пасьля публікацыяў у *Georgian Poetry* вершы Эліата былі названыя «вярзеньнем п'янога». Але неўзабаве кнігі крытыкі *The Sacred Wood* і паэзіі *The Waste Land* усё зьмянілі. Наступныя дзесяцігодзьдзі Эліат-бунтар трансфармуецца ў Эліата-клясыка, прычым трансфармацыя адбываецца ня столькі ў творчасьці, колькі ва ўспрынятцы асяродзьдзем. Потым былі Нобэлеўская прэмія, залаты мэдаль Дантэ, амэрыканскі мэдаль Свабоды, прэмія Гётэ...

Т. С. Эліат памёр у 1965 годзе й быў пахаваны на Вялікдзень. На магіле напісана: «Маліся за душу Эліата, паэта». І крыху ніжэй: «У маім пачатку маё скончэньне». І яшчэ ніжэй: «У маім скончэньні мой пачатак».

А ў 1967 годзе ва Ўэстмінстэрскім Абацтве быў пастаўлены помнік паэту са словамі з *Little Gidding*: «Сувязь са сьмерцяй ёсьць словы агню мовы з жыцьцём».

У «Запісах БІНІМу» (1989, № 19) ужо друкаваліся пераклады вершаў Эзры Паўнда, выкананыя Янкам Юхнаўцом. Гэтым разам у ягоным перакладзе прапаноўваецца нізка вершаў Т. С. Эліата.

**Л. Ю.**

### Dry Salvages

*...памаліся за тых, хто быў на*
*вадаплавах,*
*І закончыў сваё падарожжа на пясках*
*або ў вусьнах мора,*
*або ў цёмным горле мора —*
*ніколі іх ня вернеш;*
*або дзе не пачуюць голас больш*
*званоў зь зямлі над імі —*
*набожнае практыкаваньне:*
*практыкуем — навучэньне*
*перад Богам.*

### East Coker

*Дом, адкуль мы пайшлі, — пачатак*
*ёсьць.*
*Але, калі расьцём старымі,*
*жыцьцё становіцца неспадзеўным:*
*усё завязанае жыцьцём і сьмерцяй*
*І яно асоблена або раней, або потым.*

*Жыцьцё бушуе не аднаму для нас,*
*бы камень непаравернуты.*
*Ёсьць час увечары пад зорамі,*
*але асьвечаны лямпадамі.*
*(Вечар — альбом фатаграфічны).*
*І любоў у блізасьці спакой сустрэчы.*

*Чалавек стары быць мусіць*
*падарожнікам,*
*ён мусіць рухацца*
*у іншую запаветнасьць*
*для будучай спалучнасьці*
*праз парожняе апусташэньне —*
*прычасьцем.*

*Халоднасьці душы пакінутай —*
*хвалі ветру плачуць бураветнасьцяй,*
*гэта ёсьць пачатак думаньня ад Эліата.*

### "The Love Song or Jon Alfred PrufRock"

*Старэю я. Старэюся.*
*Гузікі ў штанах тужэй падкручваю.*
*Ці мушу валасы прыгладжваць на*
*патыліцы?*
*Ці ў штанах флянэлевых у песьціках*
*цьвяцістых*
*пайшоўшы на ўзьбярэжжа каля мора*
*сьпеў русалак чуць.*
*Ня думаю, сьпяюць яны.*
*Водарасьцямі захлістанымі ў хвалях*
*бачу іх.*
*Валасы белыя прычэсаныя наадварот*
*Подзьмухам вятрысым ля кляштору*
*ўзьбярэжнага мора.*
*Спыняюся побліз кляштору — мора.*
*У вянках марскіх сьвяціста-браўных*
*Там захоны сонца, можа там,*
*скрык — голас неназваны,*
*чалавечы,*
*пачуеш ты.*

---

Так пачынаецца новае жыцьцё, на чужой зямлі, якая мусіла стаць яму другой радзімай.

## IV

На першыя невялікія заробкі Віктар набыў на кірмашы кавалак ацынкаванай бляхі й з дапамогаю зламанай лыжкі выціснуў на ёй «Пагоню». Гэтая выява й сёньня ўпрыгожвае штаб-кватэру «Хаўрусу» — Аб'яднаньня Беларусаў у Францыі, што знаходзіцца ў Парыжы на вул. Гравіе.

Зь першых дзён побыту ў Францыі Віктар Жаўняровіч робіцца найблізкайшым, «неадступным» памочнікам айца Льва Гарошкі — слаўнай постаці беларускай пасьляваеннай эміграцыі на Захадзе. Айцец Гарошка моцна паўплываў на далейшае фармаваньне сьветапогляду Віктара Жаўняровіча. Зь іх ліставаньня відаць, што мастак моцна любіў і шанаваў а. Льва. Вось як ён піша ў сваім лісьце да архімандрыта 24 верасьня 1967 году (архіў а. Льва Гарошкі):

*Дарагі Айцец!*

*Ліст Ваш атрымаў, але стыдна мне прызнацца, што недзе зацярушыў і з таго поваду добра ня памятаю, калі адбудзецца Богаслужэньне. Прыпамінаю, што 15 octobre «кастрычнік». Калі Вы маеце быць у Парыжы, дык, калі ласка, хутка напішыце. Дзякуючы Богу і маёй працы, дастаў узнагароду за мастацтва: на выстаўцы абразоў Palette Française «Le Diplôme d'Honneur du Grand Prix de Touquet».*

*Прывітаньне Айцу Язэпу Гэрмановічу. Сёньня вельмі многа маляваў марскія віды: хвалі і скалы, хмары і вецер марскі. Сумныя й драматычныя малюнкі...*

Мы бачым іх, сьвятара й мастака, на фотаздымках заўсёды поруч: падчас жаніцтва й хросту, на вяселлі й паховінах.... Вось што піша газэта «Беларус» у 1972 годзе (№ 185): «У вясельнім банкеце... пад гоман вясёлы і шум шампана сп. Жаўняровіч зьдзіўляў сваім прыгожым голасам і ўмела дабранымі песьнямі. Прагучэла й жаўнерская песьня «Ідуць жаўнеры-Беларусы».

Паштоўка з Паўднёвага мора:

*Дарагі Айцец Леў!*

*Прыйміце маё Вам прывітаньне. Няхай Будзе Пахвалёны Ісус Хрыстос. Дзякуючы Госпаду маю вялікую магчымасьць бачыць прыгажосьць мора: чырвоныя скалы, сінюю ваду і пальмы. Пагода вельмі добрая. Малюнкі марскія вельмі ўдаліся. Будзеце ў мяне, дык пабачыце. Але ў гэтым тыдні вяртаюся да хаты, час хутка ляціць, як хвалі марскія адна за адной гінуць у пяску беспаваротна. А знаю, наступае новая хваля. Так як і жыцьцё. Да пабачэньня. Віктар.*

Але пабачэньня не адбылося. 28 ліпеня 1977 году ў Лёндане айцец Часлаў Сіповіч быў адарваны ад працы трывожным тэлефонным званком. Ён падняў слухаўку. Пачуўся плач... Потым знаёмы голас Віктара Жаўняровіча здолеў прамовіць: «Айца Льва больш няма...»

## V

Пасьля страты духоўнага настаўніка й найбліжэйшага сябра, Віктар чуўся асірацелым. Душу мастака гаілі музыка й бесьперапынная праца. Яго адзіны сябра, таксама мастак, Міхась Наўмовіч, аднойчы скажа яму: «Чаму ты Віктар, ня пішаш з натуры? Колькі можна маляваць з памяці! Мастак жа павінен тварыць у кантакце з жывой прыродай».

Гэтак пачалі зьяўляцца краявіды Францыі. Кожны раз, наведваючы сябра, Міхась захапляецца яго абразом «Возера зь лілеямі», што вісіць у гасьцёўні. Я падумаў, што возера знаходзіцца на Беларусі, а мне растлумачылі, што яно ў Пікардыі.

Ужо з пачатку 60-х гадоў Віктар Жаўняровіч прымае ўдзел у выставах, якія ладзяцца ў Францыі, атрымлівае на іх высокія ўзнагароды. Але найперш ён бярэ ўдзел у выставах і вэрнісажах земляко, што жывуць у ЗША.

Вось як піша пра гэта ў 1962 годзе Уладзімер Шыманец, таксама знаны на эміграцыі жывапісец:

«Беларускі мастак Віктар Жаўняровіч выстаўляе зараз у Н'ю-Ёрку большую частку сваіх твораў.

Ініцыятыва гэтага мерапрыемства належыць Беларускаму Інстытуту Навукі і Мастацтва, які аддае даніну павагі артысту й беларускаму малярству.

Мы вельмі шчасьлівыя падкрэсьліць важнасьць гэтай падзеі, таму што В. Жаўняровіч жыве і стварае ў Францыі».

Аб творчасьці й посьпехах мастака напісана ў "Revue Moderne" ад 1 красавіка 1962 году:

«Стары імпрэсіянізм заўсёды мае сваіх прыхільнікаў, як правіла, сярод добрых мастакоў, шчырых аматараў характара формаў. Гэтак можна сказаць і пра Віктара Жаўняровіча, выхаванца Віленскае школы.

Тое, што яго абраз «Жніво» быў пасланы на 100-ы Вэрсальскі салён, ягоная праца «Лес восеньню» атрымала высокую ўзнагароду, — сьведчыць аб багатай палітры мастака, вартай высокіх майстроў гэтага жанру.

В. Жаўняровіч ужо выстаўляў свае творы ў гарадох Тукэ, Бовўа, Рўан, Мант і Ліль».

У замежным і эміграцыйным друку — дзясяткі публікацыя пра творчасьць В. Жаўняровіча. І ніводнага слова на бацькаўшчыне.

Але мастак працягвае працаваць.

Дык шчыра пажадайма нашаму славутаму (на чужыне) імпрэсіяністу далейшага плёну ў творчасьці, доўгага жыцьця й нарэшце — прызнаньня на Бацькаўшчыне, якая заўсёды яго натхняла. Упэўнены, што гэтае прызнаньне прыйдзе.

**Уладзімер Палупанаў**
*Парыж*

## СЬВ. ПАМ. СЫМОН ШАЎЦОЎ

**(1911, Беларусь—1999, Аўстралія)**

Пайшоў з жыцьця талентавіты журналіст і пісьменьнік Сымон Шайцоў.

Вучыўся ў БДУ ў акадэміка Нікольскага, прафэсара Перцава. Быў знаёмы амаль з усімі беларускімі пісьменьнікамі даваенага часу, а таксама з А. Чарвяковым, С. Кандыбовічам, Ю. Сабалеўскім, Я. Кіпелем, Ул. Казлоўскім, Ул. Іваноўскім; сябраваў з Валерыем Мараковым, Юліем Таўбіным, Максімам Лужаніным. Друкаваўся ў «ЛіМе», «Полымі», «Беларускай думцы», «Ніве», «Нашай Ніве» ды іншых выданьнях.

Памер 9 траўня 1999 г., пахаваны 12 траўня на могілках прадмесьця Сыднэя Руты Гіл (Rooty Hill).

Вянком на сьвежую магілу сталася ягоная кніга «Мая адысэя», выдадзеная ў траўні ў віленскім выдавецтве «Рунь».

Ён пражыў вельмі цяжкае жыцьцё, зьведаў зьверствы сталінскага й фашыстоўскага тэрору, але гэта не зламіла яго. Усюды, дзе б ён ні жыў, дзе б ні працаваў, — заставаўся беларусам высокага гарту, думаў пра Бацькаўшчыну, працаваў на яе карысьць і змагаўся за яе Незалежнасьць. Усюды карыстаўся заслужаным аўтарытэтам і пашанай. Заўсёды быў вялікім аптымістам, верыў у будучыню Беларусі, такім ён і застанецца ў нашых сэрцах.

Выказваем шчырае спачуваньне ягоным родным і блізкім.

**Уладзімер Цярохін**
*Менск*

## СЬВ. ПАМ. УЛАДЗІМЕР МАШАНСКІ

**(9 сьнежня 1925 г. — 23 красавіка 1999 г.)**

Валодзя Машанскі быў актыўным удзельнікам беларускага грамадзкага й царкоўнага жыцьця ў штаце Нью Джэрзы, таксама зьяўляўся сябрам Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзы й годна рэпрэзэнтаваў гэтую арганізацыю як на мясцовых парадах, гэтак і на Парадах Паняволеных Народаў у Нью Ёрку.

Прыехаў ён у Злучаныя Штаты на пачатку 1950 году й адразу ўключыўся ў грамадзкае, царкоўнае ды палітычнае жыцьцё пасьляваеннай беларускай эміграцыі. Быў адным з заснавальнікаў у 1951 годзе парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў юрысдыкцыі БАПЦ; займаў становішча скарбніка гэтай парахвіі.

Сьв. пам. Уладзімер быў хіба адною зь першых асобаў, хто купіў уласнае аўта, праз што дапамагаў новым эмігрантам сяліцца й уладжвацца на працу ў гэтым асяродку.

Нябожчык пакінуў у глыбокім смутку жонку Зосю й сыноў Андрэя й Антона.

**Я. Беразіна**

### У памяць Ірэны Чарнэцкай-Гайдэль

**Д. Бічэль-Загнетава**

### БЕЛАРУСЬ-ДЗЯЎЧЫНКА

*Беларусь, ты дзяўчынка-падлетак,*
*Вытры з вочак зялёныя сьлёзы*
*Ды бяжы праз квяцісты палетак —*
*Кліча Божа цябе на нябёсы.*

*Зачыні свае даўнія страхі,*
*Хай галоднымі курчацца ў склепе.*
*Панясуць цябе вольныя птахі,*
*Груганы цябе тут не зачэпяць.*

*Будзеш правіць сваёю зямелькай,*
*Шанаваць цябе будуць сястрычкі,*
*Будзеш Богу сьвятою нядзелькай*
*Шнураваць на нагах чаравічкі.*

## АХВЯРАВАНЬНІ

**На Выдавецкі Фонд газэты «Беларус» (US$)**

| | |
|---|---|
| Ю. Кіпель | 250 |
| А. Кіпель | 240 |
| Жаночная сэкцыя пры аддзеле БАЗА ў Нью Джэрзы | 200 |
| Н. і М. Рагулі | 200 |
| М. Гаўрылюк | 100 |
| Л. Колін | 100 |
| З. і В. Кіпелі | 100 |
| К. Калоша | 100 |
| А. Стрэчань | 100 |
| Я. Азарка | 70 |
| Р. Касаты | 60 |
| Н. і Ж. Сянькевічы | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| У. Бельмач | 50 |
| др. В. і В. Рамукі | 50 |
| У. Брылеўскі | 50 |
| В. Дубяга | 50 |
| А. Сямёнаў | 50 |
| О. Дубаневіч | 50 |
| П. Бурдзь | 40 |
| Я. Кабяка | 40 |
| М. Стрэчань | 40 |
| Н. Стрэчань | 40 |
| В. Стрэчань | 40 |
| Г. Скурат | 35 |
| К. Акула | 30 |
| У. Машанскі | 30 |
| Г. Дубяга | 30 |
| П. Нягода | 30 |
| А. Няпейн | 30 |
| В. Яцэвіч | 30 |
| М. Шпэндзік | 30 |
| Т. Кананчук | 30 |
| С. Карніловіч | 30 |
| Я. Раковіч | 30 |
| І. Шымчык | 30 |
| Я. Ханенка | 30 |
| Г. Махахей | 30 |
| Я. Каваленка | 30 |
| О. Стрэчань | 30 |
| Н. Кертыш | 30 |
| Я. Юхнавец | 20 |

**У памяць М. Ганька**

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | 100 |
| К. Акула | 50 |

**У памяць І. Чарнэцкай-Гайдэль**

| | |
|---|---|
| В. Чарнэцкая-Махнач | 50 |

**Сабрана ў часе Сакавіковых Сьвяткаваньняў**

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез | 100 |
| В. Заморская | 100 |
| Г. Тумаш | 100 |
| І. Сурвілла | 50 |
| А. і Н. Сільвановічы | 50 |
| Г. і С. Навумчыкі | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| Л. Норык | 30 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| М. і К. Верабей | 20 |
| М. Сагановіч | 20 |
| А. Тальянскі | 20 |
| Ю. Васілеўскі | 20 |

### ВІНШУЕМ!



Актыўны кальпартатар газэты «Беларус» у штаце Нью Джэрзы

**СЯРГЕЙ ТРЫГУБОВІЧ**

у траўні скончыў Кінскі (Kean) Унівэрсытэт у г. Юніан (Union City, NJ) і атрымаў ступень бакаляўра кампутарных навук

| | |
|---|---|
| а. Аляксей | 20 |
| А. і В. Шчэцька | 20 |
| Др. В. Кіпель | 20 |
| З. Кіпель | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| А. Субота | 10 |
| Я. Азарка | 10 |
| У. і А. Бандарцавы | 10 |

*З Англіі (£)*

| | |
|---|---|
| Ч. Вудкевіч | 50 |
| Т. Д. | 40 |
| Ч. Каданевіч | 30 |
| А. Ражанец | 25 |
| М. Швэдзюк | 25 |
| М. Баяроўскі | 20 |
| М. Вінцэнчык | 20 |
| Л. Міхалюк | 20 |
| П. Шыркоўскі | 20 |

*З Бэльгіі (Belg. fr.)*

| | |
|---|---|
| І. Саўка | 1500 |
| З. Смакршчок | 1500 |
| Я. Жучка | 1000 |
| А. Занкоўскі | 1000 |
| Л. Клыбік | 1000 |
| А. Арэшка | 500 |

**На выданьні БІНІМу (US$)**

| | |
|---|---|
| К. і С. Вініцкія | 250 |
| З. Жалязоўская-Смаршчок | 196 |
| К. Рабкова | 150 |
| др. В. і В. Рамукі | 140 |
| др. Р. Жук-Грышкевіч | 100 |
| Б. Даніловіч | 100 |
| В. Кажан | 50 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| М. і В. Сьнежкі | 50 |
| А. Маркевіч | 50 |
| Т. Кольба | 20 |

## КНІЖНЫЯ АНОНСЫ

*Знаходзіцца ў друку*

10-ты том у сэрыі «Беларускія паэты й пісьменьнікі замежжа»
БЕЛАРУСКАЯ МЭМУАРЫСТЫКА НА ЭМІГРАЦЫІ
Рэдагаваньне, укладаньне й уступ Лявона Юрэвіча. Кошт падпіскі $25.

У кнігу ўлучаныя ўспаміны беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў дыяспары, недрукаваныя манускрыпты, матэрыялы да гісторыі арганізацыяў, школаў і г. д. Аўтар выкарыстаў каля 400 крыніцаў эміграцыйнага друку, архіву БІНІМу, бібліятэкі імя Скарыны ў Лёндане ды прыватных кнігазбораў ЗША й Канады.

Кніга — унікальны дакумэнт эміграцыйнае дзейнасьці беларускага нацыянальнага руху.

••••••••••••••••••••••••••••••••••••

*Працягваецца праца над кнігаю*

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ

Аўтар кнігі Зьміцер Саўка зьвяртаецца да суродзічаў з просьбаю дасылаць матэрыялы (здымкі, копіі дакумэнтаў, лістоў, пісьмовых успамінаў), зьвязаныя з гісторыяй БАЗА й наагул з гісторыяй беларускае эміграцыі на адрас:

**Z. Sauka, 204 Ave. N, Brooklyn NY 11230.**

Калі Вы маеце такія матэрыялы, а таксама хацелі б падзяліцца ўласнымі ўспамінамі й меркаваньнямі што да гісторыі БАЗА й беларускае эміграцыі, аднак адсутнасьць часу або слабое здароўе не дазваляюць Вам праявіць ініцыятыву,

**затэлефануйце 718-658-6760 і аўтар кнігі пастараецца сам прыехаць да Вас.**

••••••••••••••••••••••••••••••••••••

Нагадваем, што на складзе БІНІМу яшчэ ёсьць зборнікі твораў Н. Арсеньневай, А. Салаўя, Ю. Віцьбіча, кнігі Л. Крывічаніна й Я. Кіпеля. Кошт кожнае кнігі $20.

## НОВЫЯ КНІГІ

*(Працяг з с. 7)*

мовіч, Міхась Рагуля, Мікола Шкялёнак (ня памятаю, ці быў там Зьм. Касмовіч) сабраліся ў памешканьні Саковіча. Адамовіч, пачуўшы, што прапануўваецца стварыць падпольную антыбальшавіцкую й антыфашыстоўскую партыю заявіў, што ён ужо даволі пацярпеў ад НКВД і цяпер ня хоча стацца ахвяраю СС.

Асабіста я быў энтузіястам падпольнае партыі, асабліва пасьля паездкі ў Нямеччыну ў красавіку 1942 г., дзе пабачыў нялюдзкае абыходжаньне з усходнімі работнікамі. Там жа я дастаў і кнігу Гітлера «Mein Kampf», паводле якой плянавалася ператварыць Беларусь ды іншыя краіны ў нямецкія калёніі.

На тым жа паседжаньні быў прынятыя статут і праграма партыі. Тады ж усе мы прысягнулі на вернасьць ідэі незалежнасьці. Таксама было пастаноўлена выдаваць бюлетэнь БНП. Першы нумар меўся быць выдадзены ў Віцебску, другі — у Наваградку.

Часам складаецца ўражаньне, што БНП была ў першую чаргу антыбальшавіцкаю. Аднак калі б гэта было менавіта так, канспірацыя была б непатрэбная. Той факт, што Родзька спрабаваў атрымаць зброю ад Абвэру гаворыць толькі пра тое, што нам была патрэбная зброя, таму варта было скарыстаць любы шанц здабыць яе.

Як жывы сьведка падзеяў я катэгарычна заяўляю: БНП была чыста нацыянальнай незалежніцкай партыяй. На вялікі жаль, яна ня стала масавай партыяй, аднак згуртавала вакол сябе даволі шмат моладзі.

Мікуліч загінуў ад рук Зыгліга за прыналежнасьць да БНП. Валодзя Бітус загінуў за распаўсюджваньне бюлетэня БНП. Дый шмат іншых сябраў БНП сталіся ахвярамі.

Аўтар кнігі падае, што Саковіч загінуў ад рук Арміі Краёвай. Але я больш схільны прыняць гіпотэзу Туронка, паводле якой Саковіч так жа, як і Кубэ, быў забіты СС: і адзін і другі закідалі эсэсаўцам расстрэлы габрэяў і беларусаў у Слуцку ў 1941 г.

Спадзяюся, што кніга выкліча дыскусію, а магчыма, і крытыку. Аднак, нягледзячы на гэта, хачу падзякаваць аўтару за вялікую працу.

**Барыс Рагуля**